


# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

13 красавіка 2018 года №15 (1198)


# "Кветкі на могілкі – не тое, на чым трэба эканоміць"

✧Чым лепш упрыгожыць могілкі

✧ Як будуць працаваць аўтобусы на Радаўніцу ў Маладзечне і Вілейцы

старонка 5

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.




ISSN 1991–7155







## У Маладзечне ўпершыню зладзяць фестываль фарбаў і вадзяных ліхтарыкаў



старонка 2

## Як я адпачыла на Канарах за 360 еўра



старонка 21

## У Ашмянах усе назвы вуліц будуць па-беларуску

**АШМЯНЫ**

З нядаўняга часу на шматпавярховых дамах у Ашмянах пачалі з'яўляцца назвы вуліц на беларускай мове: Будаўнікоў, Чырвонаармейская, Крынічная…

Здавалася б, што тут дзіўнага – у Беларусі жывём! Камусьці гэтыя назвы сагрэлі душу, а хтосьці і ўвагі на іх не звярнуў. Большасці з нас звыкла, калі надпісы на шыльдах і ўказальніках – на рускай ці нават замежнай мовах.

Сумневу наконт таго, на якой мове падаваць напісанне назваў вуліц, у кіраўніцтва жыллёва-камунальнай гаспадаркі не ўзнікла: толькі на беларускай. Камунальнікі маюць рацыю: такі падыход пазбавіць блытаніны. Аднак толькі ў тым выпадку, калі мы напачатку будзем падаваць найменні на беларускай мове. Напрыклад, з'явіўся новы мікраран, таму і вуліцы ў ім назвалі па-беларуску.

Нам не трэба вынаходзіць веласіпед, а рабіць так, як і ва ўсім свеце – назвы даваць на роднай мове, а на любую іншую перадаваць спосабам транслітарацыі, значыць, палітарна. Калі гэта руская мова, то, згодна з арфаграфіяй рускай мовы: вуліца Шпалерная – улица Шпалерная, вуліца Вялікі Гасцінец – улица Великий Гостинец, Крынічная – Криничная.

Менавіта такі прынцып прыменены ў шасцітомным выданні "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь".

Канешне, тыя назвы, якія з'явіліся раней, ужо так і будуць у нейкім сэнсе недарэчнасцю, але ж новыя мы можам прывесці ў належны парадак, каб не блытаць турыстаў і каб яны ведалі, што ў свеце сярод мноства моў ёсць беларуская.

Паводле osh.by

## Парк афіцыйна адкрыюць 1 мая

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ці пачнуць атракцыёны працаваць раней з-за добрага надвор'я, мы распыталі ў начальніка парку імя Перамогі **Аляксандра Фалея**.

Цяпер ідзе праца па падборы персаналу. Калі кампанія пройдзе паспяхова, адміністрацыя зможа пачаць уключаць атракцыёны ў канцы красавіка.

Магчыма, маладзечанцы змогуць пакатацца ўжо 20-25 красавіка.

Аднак афіцыйнае адкрыццё парку традыцыйна прызначанае на 1 мая.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Тэмпературныя рэкорды

**АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН**

Новы тэмпературны максімум зафіксавалі ў Ашмянах – 19,2 цяпла. Найцяплей тут было ў 2016 – 17,5.

Пабіты рэкорд цеплыні і ў Валожыне. Тут тэмпература паднялася да 18,8 (мінулы рэкорд – 17,6 у 2001).

Паводле tut.by.

## 14 і 28 красавіка дзеці ў школах будуць вучыцца па раскладзе панядзелка

Школы і гімназіі будуць працаваць у суботу, 14 і 28 красавіка, па раскладзе панядзелка.

Дзіцячыя сады будуць працаваць у звычайным рэжыме, без скарачэння часу знаходжання выхаванцаў. Ва ўстановах прафесійна-тэхнічнай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў гэтыя дні таксама пройдуць заняткі па графіку панядзелка.

Аддзел інфармацыі.

## Перамаглі ў рэспубліканскай алімпіядзе

**ВІЛЕЙКА**

Ад 26 да 30 сакавіка восем навучэнцаў са школ Вілейшчыны ўдзельнічалі ў заключным, рэспубліканскім, этапе прадметных алімпіяд.

Вынік: "серабро" па рускай мове і літаратуры і "бронза" – па беларускай. Дыплом другой ступені па рускай мове і літаратуры атрымала дзесяцікласніца з гімназіі "Логас" **Анастасія Малевіч**.

Трэцяе месца па беларускай мове і літаратуры "на рэспубліцы" заняла вучаніца 11 класа вілейскай гімназіі №2 **Надзея Каўрус**, паведамляюць у аддзеле адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

Маладзечанскія школьнікі ўзялі восем дыпломаў: па тры – у гімназіі №7 і гімназіі-каледжы мастацтваў і адзін – у гімназіі №10. Выніковымі сталі хімія, руская мова і літаратура, нямецкая мова і астраномія. Адзінаццацікласнікі, якія перамаглі, ужо сёння могуць лічыць сябе студэнтамі. Гэта Елізавета Карпіновіч з гімназіі каледжа-мастацтваў, **Ганна Скрыпко** і **Яўген Ломаш** з дзясятай гімназіі і **Анастасія Смаленская** з гімназіі №7. Дыплом другой ступені па грамадазнаўстве ўзяла вучаніца з першай гарадской гімназіі Астраўца **Юлія Станкевіч**.

Аксана ЯРАШОНАК.




Фестываль фарбаў пакідае проста неверагодныя эмоцыі.



З фестываля вы вернецеся не толькі з цудоўным настроем, але і расфарбаваныя ў яркія колеры. Адчуйце вясну напоўніцу!



Калі вы даўно хацелі прызнацца ў каханні, зрабіце гэта на самай рамантычнай падзеі горада — фестывалі водных ліхтарыкаў. Вы зможаце даслаць смс на гарачую лінію, а яго тэкст прачытаюць са сцэны. Тысячы ліхтарыкаў з запаленымі свечкамі на вадзе створаць незабыўную атмасферу для такой падзеі.

# У Маладзечне ўпершыню зладзяць фестываль фарбаў і водных ліхтарыкаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Абодва фестывалі пройдуць 15 красавіка ў гарадскім парку.**

Гасцей чакаюць тры гадзіны бесклапотнай весялосці, сотні абдымкаў і тысячы ўсмешак.

Кожную гадзіну па камандзе вядучага зладзяць масавыя залпы фарбаў, каб кожны вярнуўся дадому не толькі з прыемнымі эмоцыямі, але і расфарбаваным у розныя колеры.

На сцэне выступяць лепшыя кавер-гурты горада, а папулярныя дыджэі падрыхтуюць музычныя сэты з галоўных хітоў апошніх гадоў.

На свяце зладзяць забавы на любы густ. Вы зможаце не толькі паўдзельнічаць у розыгрышы прызоў, але і смачна паесці.

**Уваход на фестываль свабодны і без узроставых абмежаванняў. Пачатак у 14 гадзін 15 красавіка.**

Акрамя Маладзечна, фестываль фарбаў ColorFest сёлета наведае яшчэ 250 гарадоў Беларусі і Расіі.

### Фестываль водных ліхтарыкаў

Акрамя свята фарбаў, 15 красавіка ў Маладзечне пройдзе рамантычны фестываль. Падчас яго кожны зможа загадаць жаданне.

Фестываль водных ліхтарыкаў – свята для тых, хто захоўвае веру ў цуды. Галоўнай падзеяй мерапрыемства з'яўляецца адначасовы спуск соцень ліхтарыкаў, у якіх будзе запаленая свечка, на ваду.

Акрамя чароўнага відовішча, на фестывалі плануюць насычаную шоу-праграму. Будзе вогненна-піратэхнічнае прадстаўленне з выступленнем музыкантаў – вядомых скрыпачоў і саксафаністаў горада.

**Пачатак фестывалю водных ліхтарыкаў – у 21 гадзіну.**

Самых маленькіх гасцей свята чакаюць вясёлыя конкурсы. А калі вы даўно марылі прызнацца ў каханні, для вас будзе працаваць гарачая лінія смс-паведамленняў, якія агучаць проста са сцэны.

Арганізатар фестывалю – арт-праект "Вместе Зажигаем" з Санкт-Пецярбурга.

Пасля мерапрыемства арганізатары разам з валанцёрамі прыбяруць вадаём, каб выключыць негатыўныя наступствы для экалогіі горада.

Аддзел інфармацыі.
Фота забяспечанае Кацярынай ЯКУНІЧАВАЙ.

"Рэгіянальная газета" – інфармацыйны партнёр фестываляў.

# Вясенняя прыборка без "хіміі"

## 7 простых крокаў

**1 ВОКНЫ**
- шклянка вады
- шклянка воцату
- 2 лыжкі спірту

Атрыманым растворам папырскаць шыбы, выцерці папяровымі сурвэткамі

**2 ЭЛЕКТРАПЛІТА**
- скурка лімона

Працерці пліту, пакінуць лімонны сок на 15 хвілін, змыць вадой.

**3 ДЫВАН, МЯККАЯ МЭБЛЯ**
- сода

Густа пасыпаць паверхню содай, праз 3-4 гадзіны прапыласосіць. Гэты метад пазбавіць ад непрыемных пахаў.

**4 ЧАЙНІК**
- 2 лыжкі лімоннай кіслаты

Дадаць у запоўнены вадой чайнік, пракіпяціць. Ваду зліць, чайнік прамыць.

**5 ДУШАВАЯ НАСАДКА**
- паўлітра воцату

Заліць у пакет, апусціць у яго насадку (пакет можна замацаваць гумкай). Праз 15 хвілін прамыць вадой.

**6 СЦЁКІ У РАКАВІНАХ**
- паўшклянкі соды
- паўшклянкі воцату

Засыпаць соду ў сцёк, заліць воцатам. Праз паўгадзіны прамыць вадой.

**7 ХАЛАДЗІЛЬНІК**
- 2 лыжкі соды
- 1 літр вады

Растворам памыць паліцы і ўнутраныя сценкі.

Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

## Санстанцыя знайшла небяспечныя для актыўнасці і ўвагі дзяцей цукеркі

МАЛАДЗЕЧНА

**Шкодны слодыч здымаюць з продажу.**

Маладзечанскі занальны ЦГЭ знайшоў небяспечную карамель – "Вясёлыя долькі" са смакам апельсіна, лімона і грэйпфрута.

Цукеркі ўпакаваныя ў палімерныя пакеты масай нета 1000 грамаў. Дата вырабу – 8 чэрвеня 2017 года, тэрмін прыдатнасці складае 12 месяцаў. Вытворца – "Неўскі кандытар", імпарцёрам з'яўляецца лідскае таварыства "ВітаПрадСэрвіс". Прадукцыя маркіраваная знакам абароту на рынку Мытнага саюза.

Паводле даследаванняў, прадукцыя не адпавядае патрабаванням тэхрэгламентаў Мытнага саюза. Вытворца на ўпакоўцы пазначыў, што ў склад уваходзяць выключна натуральныя фарбавальнікі – куркумін і антацыяны. Але санстанцыя знайшла сінтэтычны фарбавальнік понса 4 R (Е124). У маркіроўцы няма неабходнага надпісу "Утрымлівае фарбавальнікі, якія могуць аказваць адмоўны ўплыў на актыўнасць і ўвагу дзяцей".

Продаж гэтых цукерак цяпер забаронены. Калі вы знайшлі іх у магазіне, паведаміце ў санстанцыю.

**Таццяна КУГАРА,**
**доктар-гігіеніст**
**(загадчыца аддзялення)**
**гігіены харчавання**
**Маладзечанскага**
**занальнага ЦГЭ.**

## Агракласы з'явяцца ў беларускіх школах у новым навучальным годзе

Аб гэтым карэспандэнту БелТА паведаміў першы прарэктар Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага ўніверсітэта **Мікалай Раманюк.**

– З новага навучальнага года ў беларускіх школах разам з педкласамі з'явяцца і агракласы. Цяпер у нас ёсць дакладная дамоўленасць аб стварэнні 10 такіх класаў. Мы ўжо падрыхтавалі практычна ўсю праграмную дакументацыю для настаўнікаў школ, якія будуць іх весці, – сказаў Мікалай Раманюк.

Ён адзначыў, што агракласы плануецца адкрыць у сельскай мясцовасці і ў невялікіх гарадах па ўсёй краіне.

– Агракласы будуць стварацца на базе 10-11-х класаў школ у вялікіх вёсках, невялікіх гарадах, часам раённых цэнтраў. Трапіць туды дзеці змогуць пасля сумоўя, улічвацца будуць і выніковыя балы, – праінфармаваў першы прарэктар.

Па словах Мікалая Раманюка, таксама пастаўленая задача ствараць школы ў лепшых гаспадарках краіны, дзе перспектыўныя студэнты сельгасспецыяльнасцяў змогуць праходзіць вытворчую практыку.

– Школы будуць створаныя пры буйных базавых гаспадарках з добрым аснашчэннем. Там студэнты будуць вывучаць новую тэхніку, асвойваць сучасныя тэхналогіі. Работа па стварэнні школ вядзецца. Цяпер нашы студэнты праходзяць практыку на базе трох вучэбна-навукова-вытворчых цэнтраў пры СВК "Агракамбінат Сноў", агракамбінатах "Дзяржынскі" і "Ждановічы", – заключыў ён.

**Паводле БелТА.**

## Пачаўся сезон палявання на птушак

МЯДЗЕЛ

Ад 10 красавіка адкрываюць вясновы сезон палявання на гусь белалобую, гусь гуменніцу, гусь шэрую, казарку канадскую, на самцоў крыжанкі (крыквы), чыркоў-трaскункоў, чыркоў-свістункоў, чубатай і чырванагаловай чэрняці, гогаля, качку-свіязі, вальдшнэпа.

Паляваць можна па суботах, нядзелях, панядзелках, у дзяржаўныя святы. Паляванне на самцоў вальдшнэпа з засады дазваляюць таксама ад 18:00 да 22:00

**Паводле narochpark.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.04 | 12.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9668 | **2,0698** |
| Еўра | 2,4140 | **2,5580** |
| Злоты, 10 | 5,7361 | **5,9480** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4033 | **3,2317** |
| Грыўня, 100 | 7,4854 | **7,7980** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **4.04** | **11.04** |
| Еўра | 2.4000/2.4200 | **2.4870/2.5800** |
| Долар ЗША | 1.9500/1.9650 | **2.0250/2.0800** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 4.04 | 11.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **18,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Карп "Элітны" | 4,50 | **4,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **3,70** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,50 | **5,20** |
| Бульба, 1 кг | 0,75 | **0,70** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,68 | **0,68** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,10** |
| Морква, 1 кг | 0,79 | **1,49** |
| Памідоры, 1 кг | 3,40 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **4,95** |
| Радыс, 1 кг | 1,80 | **4,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | **0,79** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,49 | **5,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 3,69 | **3,40** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,20** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,80 | **3,20** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,59 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,89 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **8,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **2,50** |

● НАВІНЫ

## Пенсіянерка з мужам паспелі выратавацца — у Маладзечне згарэў дом

МАЛАДЗЕЧНА

У суботу, 7 красавіка, здарыўся пажар каля шасці раніцы. Гарэў жылы дом. На пажар адправілі чатыры адзінкі тэхнікі. Калі яны прыехалі, адкрыта гарэў дах жылога дома.

У цагляным аднапавярховым электрыфікаваным доме пажарны апавяшчальнік не быў усталяваны. Гаспадыня дома 75-гадовая пенсіянерка, якая і выклікала на дапамогу ратавальнікаў, выйшла самастойна разам з мужам, калі яшчэ не прыехалі пажарныя.

Дом больш не прыдатны для жылля.

Прычыну пажару высвятляюць. Меркаваная версія – кароткае замыканне электраправодкі.

Маладзечанскі ГРАНС нагадвае, што пажар можна прадухіліць, паклапаціўшыся загадзя аб выкананні простых патрабаванняў пажарнай бяспекі.

Рэкамендуем усталяваць аўтаномны пажарны апавяшчальнік, ён загадзя папярэдзіць пра пажар.

Ніколі не пакідайце дзяцей без нагляду! Захоўвайце запалкі ў недаступных для іх месцах.

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**

## Затрымалі п'янага кіроўцу падчас аперацыі "Фільтр"

СМАРГОНЬ

8 красавіка раніцай міліцыя правяла аперацыю ў некалькіх гарадах Гродзенскай вобласці.

За некалькі гадзін у Гродне знайшлі 30 парушэнняў правілаў дарожнага руху.

У Смаргоні затрымалі нецвярозага кіроўцу.

**Паводле УУС Гродзенскага аблвыканкама.**

## Два браты з Вілейшчыны рабавалі прахожых у сталіцы

ВІЛЕЙКА

Два браты з Вілейскага раёна ў канцы сакавіка рабавалі прахожых.

Маладыя людзі літаральна адключалі ахвяр, а затым лазілі па кішэнях.

Аднак пасля першай справы кожнага з іх затрымала міліцыя. Спачатку 20-гадовага ўраджэнца Вілейскага раёна пасля таго, як адабраў мабільны тэлефон у мінчаніна. Пацярпелага браты сустрэлі на вуліцы Магілёўскай у сталіцы. Зламыснік закрануў яго плячом, а калі мужчына адвярнуўся, нанёс два ўдары кулаком па твары, пасля чаго той страціў прытомнасць.

Нападаючы забраў з кішэні мабільны тэлефон. Каб сысці ад міліцыі, гаджэт вырашылі перапрашыць. Для гэтага зламыснік звярнуўся да свайго знаёмага.

Але майстар быў знаёмы і з пацярпелым. Злачынства раскрылі. Падазраванага затрымалі. Праз некалькі дзён на той жа вуліцы, па такім жа сцэнары брат затрыманага абрабаваў яшчэ аднаго чалавека. У той жа вечар яго затрымалі.

Кожнаму з братоў пагражае па шэсць гадоў турмы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Жанчына выратавала суседа з пажару

ВІЛЕЙКА

7 красавіка ўвечары ў Вілейскі ГРАНС патэлефанавала жанчына і расказала пра задымленне ў кватэры па Гагарына, 9.

Высветлілі, што задымленне адбылося з-за ежы на пліце.

Жанчына-суседка адчула на лесвіцы пах дыму, зайшла ў кватэру і ўбачыла, што ўсе пакоі задымленыя. У адным з пакояў спаў гаспадар. Яна і патэлефанавала ў ГРАНС. Мужчыну выратавалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Міліцыянеры выратавалі з палаючага дома пяцігадовага хлопчыка

МЯДЗЕЛ

Здарэнне адбылося 25 сакавіка.

Ноччу ў аператыўнадзяжурную службу паведамілі, што гарыць дом па вуліцы Нарачанскай у райцэнтры. Міліцыянер-кінолаг **Віталь Чарняўскі** і міліцыянер-кіроўца **Сяргей Алаў** першымі прыехалі на месца пажару.

Гарэў адзін з пакояў, а ўсё памяшканне было задымленае. Пачуўшы крыкі аб дапамозе, міліцыянеры зайшлі ў ахоплены полымем дом.

Эвакуявалі жыхароў, якія сказалі, што ў адным з пакояў засталося дзіця.

Не чакаючы выратавальнікаў, міліцыянеры вярнуліся ў дом за пяцігадовым Пашам.

Напалоханага хлопчыка яны вынеслі з палаючага дома і перадалі нараду МНС, які толькі пад'ехаў.

Выратаваныя людзі перадалі падзяку міліцыянерам.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Выратавальнікі 25 разоў тушылі пажары ад сухой травы

МАЛАДЗЕЧНА

**Для тушэння задзейнічалі 36 адзінак тэхнікі.**



На месцы здарэння.

Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

Тушыць пажар ад сухой травы выязджалі ў Ракуцёўшчыну, Крыніцу, Дубрава, Алёхнавічы, Чысць, Гарнякі, Вазгелы, Пралескі, Беразінскае, Міхалова, Рагазы, Ізабеліна, Мароські, Якавічы, Палачаны. Па чатыры разы выязджалі ў Краснае і Маладзечна.

Штогод з надыходам вясны выпальванні сухой травы ператвараюцца ў стыхійнае бедства. Часам траву выпальваюць наўмысна сельскагаспадарчыя арганізацыі для ачысткі палёў ад непажаданай расліннасці.

Але значна часцей прычынай загарання травы становіцца нядбайнасць, неасцярожнасць, а то і хуліганства дарослых людзей, у якіх "хапае розуму" выкінуць непатушаны акурак з акна аўтамабіля, пакінуць непатушанымі вогнішча пасля пікніка, а то і пачаць выпальванне травы проста так. Нярэдка запаленую запалку ў траву кідаюць дзеці дзеля забавы і зусім не думаючы пра наступствы.

У 2017 годзе ў экасістэмах адбылося 1599 пажараў на агульнай плошчы 517,2 га. Выратавальнікі ліквідавалі 106 лясных пажараў, 39 узгаранняў тарфянікаў. Зафіксаваныя 1454 выпадкі гарэння травы і кустоў.

З году ў год эколагі і выратавальнікі б'юць у званы і заклікаюць людзей не паліць траву на сваіх падворках. Агонь бязлітасны, знішчае не толькі раслінны пласт, гаспадарчыя пабудовы, але і наносіць сур'ёзныя траўмы самім падпальшчыкам.

Вырашыць праблему з леташняй травой і смеццем можна двума спосабамі – вывезці на сметнік ці спаліць. Людзі аддаюць перавагу другому, больш хуткаму і зручнаму варыянту. Аднак пра выкананне правілаў бяспекі мала хто задумваецца.

Вельмі часта ахвярамі травяных пажараў становяцца пенсіянеры. Моцнае задымленне, немач пажылых людзей, парывы ветру – усе гэтыя складнікі заканчваюцца трагедыямі.

МНС Беларусі нагадвае, што неабходна быць асцярожнымі пры навядзенні парадку ў прыватных жылых дамах, на дачах:

- вывозіць смецце ў спецыяльна адведзенае месца;
- калі без спальвання не абысціся, абярыце пляцоўку так, каб пазбегнуць пажару, адлегласць да будынкаў і збудаванняў павінна быць не менш за 10 метраў, ад лясного масіву – 20 метраў, 30 метраў ад месцаў, дзе складзіруецца сена ці салома. Паліць адходы можна толькі ў зацішнае надвор'е, полымя трэба пастаянна кантраляваць, ні ў якім разе не пакідаць без нагляду;
- не забывайце пра вогнетушыцель, ёмістасць з вадой, рыдлёўку;
- выпальванне сухой расліннасці, травы на корані катэгарычна забараняецца.

Згодна з артыкулам Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях, за выпальванне сухой расліннасці, траў на корані, а таксама ржышча і пажніўных рэштакаў на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў вінаватыя прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь.

У выпадку прычынення шкоды ў асабліва буйным памеры надыходзіць крымінальная адказнасць.

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**

## УУС Мінаблвыканкама праверыла гаспадарку "Стайкі" на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

8 красавіка супрацоўнікі УУС Мінаблвыканкама сярод іншых гаспадарак праверылі сельгаспрадпрыемства "Стайкі" ў аграгарадку Мацькаўцы, што на Вілейшчыне.

Ад 12:40 да 13:30 у "Стайках" адсутнічалі ахоўнікі і іншыя работнікі прадпрыемства. Толькі пасля таго, як умяшаліся УУС і РАУС, прыехаў галоўны інжынер арганізацыі. На момант праверкі цэнтральныя вароты мехдвара былі адчыненыя, агароджа пашкоджаная ў некалькіх месцах. На мехдвор мог прайсці любы старонні чалавек.

Машынны двор, дзе захоўваліся таварна-матэрыяльныя каштоўнасці, таксама быў не замкнёны, адкрытымі аказаліся і дзверы кабін некаторых трактароў і аўтамабіляў.

У памяшканнях прадпрыемства безгаспадарліва захоўвалася некалькі адзінак раскамплектаванай тэхнікі. А на рамонце ў майстэрні гаспадаркі была асабістая аўтамашына "Фольксваген-Гольф" аднаго з работнікаў.

Не было аховы, вонкавага асвятлення, замкоў на размешчаным недалёка складзе мінеральных угнаенняў у Мацькаўцах. Да 400 тон мінеральных угнаенняў быў свабодны доступ: можна было лёгка пад'ехаць і падысці.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Пазычаў нібыта на лекі маці і падарункі дзяўчыне, а пасля прайграваў іх на стаўках

МЯДЗЕЛ

26-гадовага ўраджэнца Мядзела падазраюць у махлярстве ў асабліва буйным памеры.

Паводле следства, абвінавачаны ў перыяд ад студзеня 2015 года да кастрычніка 2017 года праз падман і злоўжыванне даверам пад рознымі прыдуманымі падставамі атрымоўваў грошы ад 21 пацярпелага.

Кантактуючы са знаёмымі з розных рэгіёнаў праз сацыяльныя сеткі, фігурант прасіў тэрмінова пазычыць яму грошы на некалькі тыдняў. Вяртаць іх ён не збіраўся.

Маладзён расказваў, што яму патрэбныя грошы на тое, каб выгадна купіць электронную ці камп'ютарную тэхніку за межамі Беларусі, а пасля прадаць. Ці што патрэбныя грошы на медыцынскую дапамогу маці, купіць падарунак дзяўчыне або паехаць у іншы горад.

У большасці выпадкаў пацярпелыя пераводзілі ад 50 да 300 рублёў на банкаўскую картку мядзяльчаніна.

А на самой справе абвінавачаны быў пастаянным кліентам букмекерскіх кантор і прайграваў пералічаныя грошы на стаўках.

З-за ставак ён меў даўгі, але працягваў гуляць у спадзяванні на выйгрыш. Таму і пазычаў у знаёмых.

Адзін з пацярпелых пазычыў пад распіску ў некалькі этапаў грошы ад продажу аўтамабіля – агулам 10 тысяч рублёў. Другі аформіў на сябе крэдыт, а атрыманыя пяць тысяч рублёў аддаў фігуранту.

Агульная шкода па справе складае 23 тысячы рублёў. Абвінавачанага ўзялі пад варту.

Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Таццяна БЕЛАНОГ, Следчы Камітэт.**

# Сям'я з Маладзечна: кветкі на могілкі – не тое, на чым трэба эканоміць

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**Летась на Радаўніцу на могілках у Ільі Юры Вайтовіч з Маладзечна з дачкой-студэнткай Янай былі аднымі з тых нешматлікіх наведнікаў, якія прыйшлі з жывымі кветкамі. Сёлета, па словах Яны, на магілы блізкіх яны зноў пакладуць жывыя гваздзікі.**



– Мы даўно ўжо не выбіраем штучныя кветкі, – падзялілася Яна (на фота) традыцыямі сваёй сям'і. – Не лічу, што іх уласцівасць доўга захоўвацца – гэта вельмі вялікая перавага. Для некага сапраўды прасцей раз на год паставіць пластыкавыя кветкі і забыцца. Мы ж не лічым, што так лепш. Тут і экалагічныя прычыны, і маральныя: усё ж жывыя кветкі – сімвал таго, што жыццё працягваецца. І па-мойму, знак куды большай павагі да памерлых.

Родам з Ільі Яніна мама, адсюль – і бацькавы карані, таму кветак на ільянскія могілкі вязуць шмат. Па словах Яны, пытанне цаны ў сям'і ніколі не стаіць. Гэта не той выпадак, калі трэба эканоміць, лічыць дзяўчына.

Летась на некаторых магілах Яна заўважала жывыя кветкі і, па яе назіраннях, глядзеліся яны куды лепш, чым штучныя.

Увогуле, сям'я Вайтовічаў, а гэта тата, мама і тры дачкі, стараюцца рабіць мінімальныя захады, каб палепшыць экалагічную сітуацыю. Яны паасобна збіраюць смецце, носяць батарэйкі ў спецыяльны пункт здачы, заўсёды прыбіраюць за сабой, калі адпачываюць на прыродзе.

### Эколаг: штучных кветак не стала менш, але мы паказалі людзям альтэрнатыву

Па словах эколага **Сяргея Юшкевіча** з Цэнтра экалагічных рашэнняў, ён і яго калегі не ставілі на мэту знішчыць карыстанне штучнымі кветкамі на могілках. Каб гэтага дамагчыся, патрэбны час. А пра небяспеку штучных кветак для экалогіі загаварылі толькі ў апошнія гады.

– Сёння наша мэта – паказаць, што можа быць альтэрнатыва штучным кветкам на могілках, – кажа Сяргей. – У многіх суседніх краінах пра штучныя кветкі на могілках не ведаюць увогуле. Узяць хаця б Польшчу. У тыя дні, калі памінаюць памерлых, палякі нясуць на могілкі лампадкі і жывыя белыя хрызантэмы ў гаршках. Гэта і для экалогіі бяскрыўдна, і глядзіцца надзвычай прыгожа.

Па словах Сяргея, ён і яго калегі цяпер шмат пішуць пра тое, як садзіць на могілках жывыя кветкі. У бліжэйшы час эколагі плануюць зняць на відэа майстар-класы.

На могілках рэкамендуюць пасадзіць нарцысы, ландышы, крокусы, гіяцынты. Гэта шматгадовыя расліны, за імі не патрэбны вялікі догляд. Надрэнны варыянт – герань. Яна добра разрастаецца і знішчае пустазелле. Усё лета і восень цвітуць хрызантэмы. Да таго ж яны добра вытрымліваюць мароз.

А пластыкавыя кветкі, кажа эколаг, – гэта дзясяткі тон пластмасы, якая трапляе на звалкі Беларусі і раскладаецца там на працягу стагоддзя. Калі такія кветкі паліць, забруджваецца таксічнымі рэчывамі зямля і паветра і ствараецца небяспека нашаму здароўю.

### Што прапануюць у кветкавых крамах

Самыя танныя жывыя кветкі ў крамах Маладзечна – гваздзікі. Яны каштуюць два рублі пяцьдзясят капеек, невысокія ружы – ад трох да чатырох рублёў. Ёсць і хрызантэмы ў гаршку, якія можна набыць, скарыстаўшы прыклад палякаў. Потым кветкі з гаршка можна высадзіць на магіле. Каштуюць такія хрызантэмы ад 12 да 18 рублёў.

Зусім маленькія штучныя букеты каштуюць 70 капеек. Цэны на больш "салідныя" кветкі вагаюцца ад чатырох да пятнаццаці рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



На могілках у Маладзечне.

## Як даехаць аўтобусам на могілкі ў Лазавец і Насілава на Радаўніцу

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі аўтапарк уводзіць дадатковы маршрут ад 14 да 16 красавіка ўключна.

### Маршрут "Плошча Старое Места – могілкі Лазавец"

Ад Старога Места аўтобус будзе адпраўляцца ад школы №5 у **10:00**, **10:50**, **11:40**, **12:30**, **13:20**, **14:10**, **15:00** і ў **15:50**.

Ад Лазаўца аўтобусы будуць адпраўляцца ў **10:25**, **11:15**, **12:05**, **12:55**, **13:45**, **14:35**, **15:25** і ў **16:15**.

### Іншыя маршруты

**17 красавіка**, у саму Радаўніцу, ад 9:00 да 16:40 з інтэрвалам у 12 хвілін ад Старога Места (пасадка ля школы №5) да Лазаўца будуць хадзіць дадатковыя аўтобусы.

Аўтобусы рэгулярнага гарадскога **маршруту №5** на ўчастку "Плошча Старое Места – Велікасельская" будуць ісці праз аўтазапраўку "Юнайтэд Компані".

Рэгулярны гарадскі аўтобусны маршрут **№6** будзе працаваць па графіках рабочага дня (тры аўтобусы) з падаўжэннем маршруту да прыпынку "Вёска Насілава".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## У Вілейцы на Радаўніцу будуць хадзіць дадатковыя аўтобусы

ВІЛЕЙКА

Дзве дадатковыя "тройкі" і аўтобус па маршруце №5 будуць вазіць віляйчан на Лясныя могілкі ў Вілейку, распавяла "Рэгіянальнай газеце" **Тамара Субач**, вядучы інжынер аддзела перавозак Вілейскага аўтапарка.

Ад **9:00** на могілкі з Макаўя пачне хадзіць аўтобус №5. Апошні рэйс з могілак – у **14:40**.

Два дадатковыя аўтобусы па маршруце №3 пусцяць ад "Аранжарэі". Яны будуць хадзіць ад **09:30** з інтэрвалам **10-30 хвілін** да **15:30**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## "Камунальнік": ствараем усе ўмовы, каб годна справілі Радаўніцу

МАЛАДЗЕЧНА

Пра тое, як рыхтуецца да свята камунальная служба, расказаў намеснік дырэктара "Камунальніка" **Віктар Макарэвіч**.

У свята, калі ўшаноўваюць памяць памерлых і прыбіраюць могілкі, камунальныя службы ствараць умовы, каб усё прайшло як мага больш камфортна.

Да Лазаўца падвязуць ваду, каб можна было памыць рукі, паставіць ці паліць кветкі.

Смецце будуць вывозіць не па графіку, а па меры напаўнення кантэйнераў.

Для камунальных службаў штучныя кветкі і вянкі ўскладняюць працу.

– Канешне, жывыя кветкі нашмат лепш, у тым ліку для нас. Нідзе за мяжой не бачыў, каб на могілках былі пластыкавыя кветкі. У той жа Латвіі, напрыклад, – толькі жывыя. Але ў нас гэта стала традыцыяй, і не мне яе мяняць.

Намеснік дырэктара па камунальных пытаннях дадаў, што могілкі ў Лазаўцы пераважна дагледжаныя і прыбраныя. Калі хосьці не можа прыбраць участак, які яму належыць, гэту паслугу можна заказаць у камунальнай службе.

**Аддзел інфармацыі.**

# Віляйчане падтрымалі міжнародную акцыю "Трыццаць дзён на ровары"





Жыхары Вілейкі ездзяць на роварах на працу, у краму і да сяброў.

ВІЛЕЙКА

**Ад пачатку красавіка ў сацыяльных сетках з'яўляюцца фотаздымкі равароў розных узростаў, прафесій і светапоглядаў.**

Аб'ядноўвае іх адно – ровар з модным флаерам на спіцах колаў. Так аматары роварнага руху і экалогіі далучаюцца да міжнароднай акцыі "30 дзён на ровары".

Актыўна падтрымалі акцыю і жыхары Вілейкі.

– Мы, мясцовыя велааматары, з задавальненнем падтрымалі акцыю, – кажа віляйчанін **Яўген Івашкевіч**. – Цяпер гэта проста катанне на роварах па цудоўных прыродных мясцінах Вілейшчыны, а таксама выкарыстанне ровара па розных, так званых "гаспадарчых", пытаннях.

У рамках акцыі некаторыя жыхары Вілейкі ездзяць на ровары на працу, у краму за пакупкамі, у госці да сяброў. Сэнс у тым, каб рухацца не пешшу, не на аўтамабілі, не на грамадскім транспарце, а менавіта на ровары.

Розныя цікавыя мерапрыемствы на роварную тэматыку ў планах вілейскіх актывістаў ёсць таксама. Іх пастараюцца правесці да канца красавіка, распавёў Яўген. Акцыя доўжыцца ад 1 да 30 красавіка.

Да акцыі "30 дзён на ровары" Беларусь далучаецца ўжо другі раз. Арганізатары звяртаюць увагу, што ровар – самы экалагічны від транспарту. Ён дазваляе не толькі паклапаціцца пра навакольнае асяроддзе, але і ўмацаваць здароўе, падняць настрой і зэканоміць грошы, якія мы трацім на паліва або на білеты ў грамадскім транспарце.

Акцыю ўрачыста адкрылі 1 красавіка ў сталіцы. Па словах арганізатараў, усе трыццаць дзён ездзіць на ровары не абавязкова, але пажадана.

– У гэтыя 30 дзён я карыстаюся роварам таму, што люблю ўсё жывое, і таму, што мне гэта проста падабаецца, – падзялілася **Таццяна Цітуленка** – старшыня грамадскага аб'яднання "ЗОВіК", начальнік службы занятасці Вілейскага райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота fb.com.**

# Бяспека пры карыстанні газам у быце




**У наш час газ з'яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак варта ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.**

Штогод у Беларусі адбываюцца няшчасныя выпадкі, у выніку якіх ёсць пацярпелыя, часам са смяротным зыходам. Трагічная іронія ў тым, што, каб жыхары захоўвалі самыя элементарныя правілы, выкладзеныя ў інструкцыі па эксплуатацыі газавага абсталявання і ў Правілах карыстання газам у быце, гэта дапамагло б пазбегнуць падобных здарэнняў і няшчасных выпадкаў.

Пры спальванні газавага паліва пры недастатковым паступленні кіслароду (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя) у выніку няпоўнага згарання, выдзяляецца чадны газ (CO), які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання ідзе ў спецыяльна абсталяваныя дымавыя каналы. Пры няспраўнасці дымавых каналаў прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, з-за чаго можа адбыцца атручэнне чадным газам.

Чадны газ у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з'яўляецца моцнадзейным ядам.

**Як выявіць чадны газ? Для гэтага выкарыстоўваюцца адмысловыя дэтэктары чаднага газу.**

Усталюйце **дэтэктары чаднага газу (CO датчык)** на кожным паверсе вашага дома, паблізу спальных пакояў для своечасовага папярэджання аб небяспецы.

Звяртаем вашу ўвагу, што **пажарныя апавяшчальнікі (датчыкі дыму), датчыкі (прыборы) выяўлення ўцечкі бытавога газу не выяўляюць чадны газ**.

Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаднага газу – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.

Сярод усіх жыццёвых каштоўнасцяў, несумненна, самай важнай з'яўляецца само жыццё. Задача кожнага чалавека – берагчы жыццё і здароўе сваё і сваіх блізкіх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, **НАГАДВАЕМ**:

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць;

- дымавыя і вентыляцыйныя каналы належыць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

**ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам.

**праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за 1 раз у 3 месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў жараўстойлівага бетону – не радзей за 1 раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавыкарыстальнае абсталяванне, **абавязаныя** выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану дымавых і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць.

**Пры эксплуатацыі газавыкарыстальнага абсталявання ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- пакідаць без нагляду ўключаныя газавыя пліты, а таксама выкарыстоўваць іх для абагрэву памяшканняў;

- пакідаць адкрытымі вентылі балонаў, краны, які знаходзяцца перад газавыкарыстальным абсталяваннем і на ім, пасля таго, як закончыце карыстацца газавым абсталяваннем;

- самавольна падключаць, адключаць, перастаўляць, разбіраць і рамантаваць газавыкарыстальнае абсталяванне;

- зрываць пломбы, устаноўленыя на прыборах уліку расходу газу, і ўмешвацца ў работу прыбораў;

- сушыць рэчы над полымем гарэлак газавай пліты;

- выкарыстоўваць для сну памяшканні, у якіх устаноўленае газавыкарыстальнае абсталяванне;

- эксплуатаваць газавыя катлы і воданагравальнікі пры няспраўных дымавых і вентыляцыйных каналах, пры адсутнасці цягі і актаў праверак тэхнічнага стану каналаў;

- выкарыстоўваць агонь для выяўлення ўцечкі газу з газаправодаў і газавыкарыстальнага абсталявання;

- карыстацца газавыкарыстальным абсталяваннем, якое эксплуатуецца звыш 20 гадоў;

- уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні паху газу ў памяшканні;

- устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы.

**За парушэнне "Правілаў карыстання газам у быце"**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак дымавых і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнская арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за спраўны стан вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, парушэнні патрабаванняў бяспекі пры эксплуатацыі бытавога газавыкарыстальнага абсталявання ўскладаецца на наймальніка (уласніка) жылых памяшканняў і дамоў.

**Паважаныя абаненты! Не падвяргайце сваё жыццё і жыццё сваіх родных небяспецы.**

ВУ "Маладзечнагаз". УНП 100008077.



Загадчык кнігарні "Спадчына" Сяргей Субаткоўскі можа навобмацак знайсці ў сваім магазіне любую кніжку.



У гандлёвай зале кнігарні "Спадчына" . Зніжку на кнігу вам прапануюць проста на касе.



Дыпломы і ўзнагароды – заслуга маладзечанскага чытача і пакупніка.

# Пах гарачай кавы і свежай кнігі ў кнігарні "Спадчына" – мара яе загадчыка

МАЛАДЗЕЧНА

**Сяргей Субаткоўскі, загадчык кнігарні "Спадчына", сваю працу любіць.**

Гэта адчуваецца па тым, што ён, амаль навобмацак, можа на паліцах свайго магазіна знайсці любую кнігу. І што ўзнагародамі хваліцца толькі таму, што ў іх заслуга кожнага пакупніка.

– У нас вельмі інтэлектуальны горад. Пытаюцца пра такія кнігі, што дзіву даешся. А мы імкнёмся дагадзіць пакупніку, можам дастаць амаль любую кнігу.

Калі якой-небудзь кнігі ў продажы няма, у магазіне сфармулююць замову і дашлюць яе ў Мінск, у "Белкнігу". Адтуль ужо неабходны экзэмпляр абавязкова дойдзе да свайго чытача.

– Мы цэнім такіх пакупнікоў, тое, што яны замаўляюць кнігі і гатовыя чакаць. А за тое, што не шукаюць кнігі ў інтэрнэт-крамах, а застаюцца аддадзенымі нам, мы пакупнікоў уключаем у акцыі, напрыклад, другую кнігу такога ж выдання чытач можа забраць абсалютна бясплатна.

У 2018 годзе ў рэспубліканскім конкурсе кнігарня "Спадчына" стала лепшым рэгіянальным кніжным магазінам у Мінскай вобласці, а таксама пераможцай конкурсу на "самы эфектыўны магазін па продажы вучэбнай літаратуры".

– Нас некаторыя абвінавачваюць у тым, што апошнім часам мы прапануем зніжкі. Кажуць,, кніга 2015 года выдання не прадалася, дык яе цяпер трэба збыць? Я з такім меркаваннем не пагаджаюся. У прадуктовай краме мы ж прывыклі да штодзённых зніжак.

Сяргей Субаткоўскі расказвае, што беларускія выдавецтвы, такія як "Народная асвета", "Мастацкая літаратура", самі прапануюць зніжкі на свае кнігі.

– Пра што мы паведамляем у абвестках на дзвярах нашага магазіна.

У абвестках пішуць пра тое, што ў кнігарні адбудзецца сустрэча з беларускімі пісьменнікамі.

– Ладзім мы такія сустрэчы пры падтрымцы Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Прыкладна раз на месяц праводзім прэзентацыі кніг, фота і аўтограф сесіі. Па-першае, гэта робіцца для таго, каб чытачы маглі пазнаёміцца з пісьменнікамі.

У нас прайшлі сустрэчы з маладзечанскай паэткай **Тамарай Бярэзінай**, віляйчанінам **Уладзімірам Цануніным**. У красавіку таксама адбудзецца сустрэча.

## Пра знакамітасцяў і самыя папулярныя кнігі

Кнігарня "Спадчына" месціцца на вельмі зручным месцы.

– Пешаходная вуліца і блізкасць да вакзалаў – тое, што трэба. Да нас часта людзі заходзяць проста таму, што гуляюць побач. Частыя госці ў нас спартсмены, акцёры, якія прыязджаюць на гастролі. Пару гадоў таму ў нас куплялі кнігі амаль усе акцёры з серыяла "Вуліцы разбітых ліхтароў". Сярод замежнікаў папулярнасцю карыстаецца альбом "Беларусь замкавая" . А ў 2017 годзе самай папулярнай кнігай па продажы была кніга " Каласы пад сярпом тваім" Уладзіміра Караткевіча.

– Вельмі папулярным быў і другі том Яўгеніі Янішчыц. Гэта кніга павінна выйсці ў чатырох тамах.

Таксама папулярным беларускім выданнем у мінулым годзе была кніга "Уладзімір Мулявін. Сэрцам і думамі". А сярод сусветных кніг самай папулярнай стала "Гульня тронаў".

Апошнім часам усё больш людзей стала цікавіцца выданнямі на мове арыгінала.

– Аддзел замежнай літаратуры ў нас прадстаўлены не так шырока, як бы нам хацелася, усяго каля 30 найменняў. Пытаюцца класічныя творы на англійскай і нямецкай мовах. Апошнім часам папулярнасць набірае і сусветная класіка на беларускай мове. Я сам не ўтрымаўся і набыў кнігу "Каханне падчас халеры".

## Пра пах кавы і кніг

Адзінае, што засмучае загадчыка магазіна, дык гэта тое, што ў кнігарні катастрафічна мала месца.

– Нам хацелася б, каб аддзелу мастацкай літаратуры было больш прасторна. Маніторым сітуацыю, думаем, як бы адкрыць яшчэ адзін магазін.

А яшчэ Сяргей Субаткоўскі марыць пра кавярню прама ў "Спадчыне" .

– Я ўсур'ёз заклапочаны гэтым пытаннем. Нават уяўляю, што замест аддзела, дзе ў нас прадаюцца канцтавары, мы паставім чатыры-пяць столікаў. Будзем варыць каву, а нашы пакупнікі будуць сустракацца ў нас, гутарыць, абмяркоўваць новыя кнігі, хваліцца тымі, што купілі ў нас. І чытаць, чытаць, чытаць. Канешне, маладзечанцы такую ініцыятыву падтрымаюць, засталося толькі, каб яе падтрымалі пажарныя і санстанцыя.

Сяргей Антонавіч кажа, што так гарыць гэтай ідэяй, што гатовы хоць сёння пры ўваходзе паставіць канапку і столік. Але куды дзець канцтавары, пакуль не прыдумаў. Але вырашыць гэта абавязкова.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**

# Дзякуй табе, сябра

## Успамін пра былога начальніка інспекцыі па падатках Альберта Дабранскага

**Два гады таму, 12 красавіка, пайшоў з жыцця Альберт Іосіфавіч Дабранскі.**



Да выхаду ў адстаўку, у студзені 2009 года, амаль 20 гадоў кіраваў інспекцыяй па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне. Гэта быў кіраўнік сучаснага маштабу і ўзроўню. Адукаваны, кампетэнтны ў сваёй справе, добрасумленны і працавіты, чулы да падначаленых і ўвогуле да людзей, добра разумеў жыццё.

Ва ўсіх раёнах, на якіх выходзіць "РГ", яго добра ведалі і як выдатнага кіраўніка, і як шчырага беларуса.

### Бацькі дбалі пра вучобу

Дабранскі нарадзіўся 27 ліпеня 1952 года ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Бацькі, зведаўшы цяжар сялянскай працы, шматлікія змены ўлад і вайну, безумоўна, хацелі лепшай долі сваім дзецям і не шкадавалі апошніх грошай на іх адукацыю і надзейнае ўладкаванне ў жыцці. А дзеці ў адказ не парывалі сувязі з роднай зямлёй.

Пасля сярэдняй школы Альберт паступіў у прэстыжны Беларускі інстытут народнай гаспадаркі па спецыяльнасці "планаванне сельскай гаспадаркі".

У час студэнцтва раскрыўся талент як арганізатара і завадатара мерапрыемстваў факультэта і інстытута. Ён быў старастам курса, дапамагаў арганізаваць навучальны працэс, шматлікія грамадска-палітычныя і культурныя мерапрыемствы.

З успамінаў былых аднакурснікаў, ён быў душой кампаніі, з выдатным пачуццём гумару, аптымізмам і жыццялюбствам. Запальваў іншых і гарэў сам.

Адразу пасля вучобы працаваў галоўным эканамістам у саўгасе "Ляды" Мядзельскага раёна. Пасля пайшоў у армію, даслужыўся да маёра запасу.

Ад снежня 1974 года да кастрычніка 1981 займаўся камсамольскай работай – інструктар, загадчык арганізацыйнага аддзела, першы сакратар райкама камсамола Беларусі. І ўсё гэта атрымоўвалася ў простага сялянскага хлопца без "шырокіх плячэй". Дзякуючы камсамольцам жыццё ў раёне бурліла.

Ад 1981 да 1990 года Дабранскі працаваў загадчыкам арганізацыйнага аддзела, пасля сакратаром райкама.

### Справіўся ў час перабудовы

Перабудова і палітычныя рэформы, што пачаліся ў 1985 годзе, прывялі да нацыянальнага абуджэння ва ўсіх рэспубліках былога Саюза. Спатрэбіліся людзі, якія змаглі б на роўных размаўляць з прадстаўнікамі беларускага адраджэння па пытаннях гісторыі, культуры, літаратуры і мастацтва Беларусі.

Усім гэтым валодаў Дабранскі. Да таго ж ён быў тактоўным і дыпламатычным, таму і знаходзіў агульную мову, беларускую, з прадстаўнікамі адраджэння. Ды і аб чым было спрачацца, калі высветлілася, што браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Цішка Гартны ніякія не "ворагі народа", а тыя, хто ахвяраваў маёмасць, здароўе і нават жыццё, каб нам жылося лепш і беларуская стала вядомае ўсяму свету.

У 1990 годзе Дабранскі ўзначаліў новую на той час структуру – інспекцыю па падатках і зборах Маладзечанскага раёна. Стварыў калектыў не толькі прафесіяналаў, але і аднадумцаў. Інспекцыя забяспечвала станоўчае сальда раённага бюджэту.

Ён цікавіўся навінкамі беларускай літаратуры і мастацтва, мы часта абмяркоўвалі тэатр, кіно і жывапіс.

Дабранскі быў добрым сем'янінам. З жонкай Марыяй Іосіфаўнай давялі да ладу дзвюх дачок. Пашчасціла яму і адчуць сябе дзедам.

З Альбертам было цікава і весела, адпачываў душой ад усяго. Памяць пра Альберта захаваецца ў сэрцах тых, хто побач жыў і працаваў, заражаўся аптымізмам і станоўчай энергіяй.

Дзякуй табе, сябра!

**Валяр'ян КАВАЛЕВІЧ, сябар, Маладзечна.**

# "Я працую Някляевым, і нікому не зняць мяне з гэтай пасады"

## Пра што распавёў пісьменнік на сустрэчы з землякамі ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ

**Песня пра Янку Купалу першапачаткова задумвалася як своеасаблівы гімн Байкала-Амурскай магістралі.**



І хто сказаў, што паэты не ўмеюць чытаць сваіх твораў? Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

А эратычны раман "Лабух" пісаўся нялёгка, бо беларускі народ настолькі цнатлівы, што не прыдумаў адпаведнай лексікі.

10 красавіка на занятках "Мова нанова" народу было больш, чым звычайна.

– Хочацца думаць, што такая наведвальнасць ад добрага вясновага надвор'я. Але я разумею, што прычына ў нашым сённяшнім госці, – пачала імпрэзу вядоўца **Наталля Тур**.

А тым самым госцем, які забяспечыў узорную наведвальнасць заняткам, стаў пісьменнік, паэт-песеннік, грамадскі дзеяч, ураджэнец Смаргоні **Уладзімір Някляеў**.

– Маладзечна – знакавае месца, колішні цэнтр вобласці, – пачаў сустрэчу пісьменнік. –Тут я бываў некалькі разоў на тыдзень у тыя часы, калі мэрам быў мой сябар **Генадзь Карпенка**. – Ён нават ноччу мог патэлефанаваць мне, запрасіць тэрмінова прыехаць, у выніку мы проста разам заходзілі ў якуюнебудзь начную кавярню, дзе ён пытаўся ў работнікаў, як ідзе іхні бізнес.

### Пра мовы беларускую і фінскую

Некалькі год наш госць жыў у Фінляндыі і на сустрэчы з цеплынёй успомніў гэту краіну і яе жыхароў, іх уменне выйсці з эканамічнага крызісу, уклаўшыся ў высокія тэхналогіі, іх неверагодную павагу да роднай мовы:

– Вы паспрабуйце сказаць у Фінляндыі, што фінская мова – бедная. За такія словы вас пакараюць на заканадаўчым узроўні. Гэта прытым, што фінаў амаль на палову менш, чым беларусаў. І фінская мова непатрэбная нідзе за межамі Фінляндыі.

Аднак, як прызнаўся пісьменнік, мову фінаў ён не вывучыў. Не вывучыў таму, што не збіраўся заставацца ў гэтай краіне назаўсёды. Прыгадаў, як сядзеў у Фінляндыі, пісаў беларускія кніжкі і прачытаў, што ў вялікім беларускім горадзе Магілёве 1 верасня па-беларуску пайшла вучыцца толькі адна дзяўчынка.

– Дык для каго я пішу свае кнігі, калі ў Беларусі дзеці не вучацца па-беларуску? Хто іх будзе чытаць? Навошта я займаюся самападманам? – дзяліўся эмацыйна ўзрушаны паэт са сваімі прыхільнікамі.

Уладзімір Някляеў перакананы: мова і культура – гэта тое ўнікальнае, што адрознівае любы народ ад усіх астатніх. І калі мы будзем з іншай мовай, мы будзем іншым народам.

І ўсё ж ёсць у беларускай мове адзін маленькі недахоп. З ім Някляеў сутыкнуўся, калі пісаў эратычны раман "Лабух".

– Пішучы эратычны раман, я сутыкнуўся, што ў беларускай мове зусім няма эратычнай лексікі. Ну, абняліся, а далей што? Як пісаць? Вось такі цнатлівы быў наш народ: лаянцы з іншых моў навучыўся, а прыдумаць сваёй эратычнай лексікі не змог, – падзяліўся Някляеў.

### Натхненне – стан блізкі да наркатычнага

Па словах пісьменніка, пісаць літаратурныя творы можна двума спосабамі. Першы – ты пішаш, бо ўмееш пісаць. Другі – ты ледзь паспяваеш запісваць тое, што нехта аднекуль дыктуе. І такі стан эйфарыі называецца натхненнем.

– Я размаўляў з наркаманамі, яны кажуць, што адчуваюць нешта падобнае, – заўважыў Някляеў. – Я шмат зведаў у сваім жыцці. Зведаў і каханне. І не адно. Але стан натхнення цяжка параўнаць з нечым. У такім стане пісалася паэма "Маланка" – пра вернасць у каханні. Я пісаў яе так, што за пяць сутак не спаў ні хвіліны.

### Чаму на пахаванні Васіля Быкава раптам зваліўся ягоны партрэт

Прыгадваючы беларускага пісьменніка, франтавіка, свайго старэйшага сябра **Васіля Быкава**, Някляеў распавёў, як у апошнія дні жыцця Васіль Уладзіміравіч казаў "Смерць – ціхая рэч. Зрабі, каб і мая смерць была ціхай".

– А тут якраз так атрымалася, што да апошняга часу не маглі вырашыць, на якіх могілках хаваць Быкава. Вырашалі ўсё гэта гучна проста над труной пісьменніка. Нехта крычыць: "Я быў на Маскоўскіх могілках! Кажуць, там няма месца для Быкава", – прыгадаў Някляеў гэты містычны выпадак 15-гадовай даўніны.

Урэшце ўсё атрымалася. А развітацца з Васілём Быкавым, па ўспамінах Някляева, прыйшло каля 50 тысяч чалавек.

### Ігар Лучанок: "О, добра, што ты прыйшоў. Песня пра экскаватаршчыкаў патрэбная"

Песні на словы Уладзіміра Някляева ёсць у рэпертуары "Песняроў" і "Сяброў". Шмат іх цяпер спявае бард **Зміцер Вайцюшкевіч**. А песня "Ах, якая паненка – залатая сукенка", як высветлілася на сустрэчы, прысвечаная дачцэ Вайцюшкевіча – маленькай Стэфаніі.

А між тым, у творчай біяграфіі паэта ёсць песні і пра выратавальнікаў на вадзе, і пра пажарнікаў. За іх добра плацілі, прызнаўся Уладзімір Пракопавіч. Шмат такіх песень было напісана ў суаўтарстве з кампазітарам **Ігарам Лучанком**:

– Неяк заходжу да яго, а Лучанок кажа: "О! Добра, што ты прыйшоў. Мне песня пра экскаватаршчыкаў патрэбная".

А яшчэ мы даведаліся, што на мелодыю песні "Янка Купала" першапачаткова павінны быў пісацца тэкст, які б заклікаў маладых людзей ехаць на будоўлю Байкала-Амурскай магістралі. І ў прыпеве замест слоў "Янка Купала" пры іншым раскладзе магло б гучаць "БАМ нас чакае".

– У Старажытнай Грэцыі было пакаранне неўпамінаннем. Так пакараны сёння і я, – падзяліўся пісьменнік са сваімі прыхільнікамі. – Але я ўсё жыццё працую Някляевым, і нікому мяне не зняць з гэтай пасады.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# На трэцім паверсе – пакоі, на першым – турма

## Што высветлілі навукоўцы падчас даследавання Крэўскага замка ў 1970-1980-х гадах

СМАРГОНЬ

**Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці Крэўскі замак, як і многія іншыя помнікі даўніны, доўгі час заставаўся амаль нікому не патрэбным аб'ектам, якія нагадваў "часы панавання эксплуататарскіх класаў".**


Фота забяспечана Аляксандрам КАМІНСКІМ.

Падчас раскопак у Крэве ў 1980-я гады.

Адносіны да гэтага гістарычнага помніка з боку тагачаснага чыноўенства добра характарызуе адпіска старшыні выканкама Гродзенскага абласнога Савета на зварот мясцовага рупліўцы за захаванне гістарычнай спадчыны **Пятра Грынкевіча**. Грынкевіч заклікаў звярнуць увагу на помнік і прыняць захады па яго ахове і ратаванні. У сваім адказе, дадзеным 9 красавіка 1963 года, абласны чыноўнік заяўляе, што замак "не ўяўляе сабой архітэктурнай і гістарычнай каштоўнасці, каб затрачваць сродкі на яго аднаўленне".

І ўсё ж многія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі разумелі значнасць помніка для айчыннай гісторыі і культуры. У 1970 годзе Інстытут гісторыі АН БССР накіраваў у Крэва навуковую экспедыцыю на чале з **Міхасём Ткачовым** – археолагам, доктарам гістарычных навук, прафесарам. Мэтай экспедыцыі быў пачатак усебаковага вывучэння старажытнага замка.

Ужо тады даследчык знайшоў рэшткі брукаванага машчэння ад уязной брамы ў паўночнай сцяне да малой вежы, а таксама фрагменты архітэктурна-дэкаратыўнай і будаўнічай керамікі. Гэтыя знаходкі дазволілі зрабіць пэўныя высновы пра асаблівасці вонкавага і ўнутранага аблічча збудавання.

Дзякуючы сваёй працы даследчыкі змаглі пацвердзіць гіпотэзы папярэднікаў пра функцыі замка ў мінулым, а таксама прагучалі некаторыя новыя меркаванні. Напрыклад Міхась Ткачоў выказаў думку пра тое, што невялікая адтуліна ў ніжняй частцы заходняй сцяны была праробленая не для спуску ці выпуску вады, як лічылі многія, а служыла запасным выхадам.

Даследчык таксама звярнуў увагу на тое, што ў некаторых апублікаваных працах і спробах рэканструкцыі замка бункер, пабудаваны немцамі падчас Першай сусветнай вайны пры паўднёвай сцяне, памылкова выдаюць за яшчэ адну старажытную вежу. Выкарыстаныя пры ўзвядзенні гэтай канструкцыі жалезабетон і цэментавы раствор замест вапнавага абвяргаюць меркаванні аб старажытнасці пабудовы.

Свае даследаванні Міхась Ткачоў працягнуў у 1985 годзе. Тады ў ходзе раскопак у паўночна-заходняй частцы дзядзінца знайшлі рэшткі драўляных жылых гаспадарчых пабудоў, фрагменты кафлі, бытавой керамікі і металічных вырабаў розных часоў. Праведзеныя работы дазволілі пацвердзіць меркаванне **Стасіса Абрамаўкаса** і іншых літоўскіх даследчыкаў пра тое, што замак узвялі ў 13 стагоддзі.

Крыху пазней, у 1988 і 1989 гадах, раскопкі ў Крэўскім замку працягнуліся. Кіраваў імі навуковец **Ігар Чарняўскі**. Важным для магчымай рэканструкцыі замка стала выяўленне на дзядзінцы на адлегласці 15 метраў у паўднёва-заходнім накірунку ад уваходу рэштак мураванага будынка. Яго будаўнічыя асаблівасці і знойдзеныя фрагменты керамікі 14 стагоддзя дазволілі меркаваць, што будынак узводзілі блізка па часе з самімі сценамі і вежамі.

Вучоныя ўстанавілі, што абедзве замкавыя вежы пабудавалі ўжо пасля ўзвядзення замкавых муроў. Першапачаткова замак задумваўся толькі з мэтай абароны. Калі з'явіліся вежы, ён не толькі павялічыў свае абарончыя магчымасці. Пасля таго як у Княжацкай вежы з'явіліся жылыя памяшканні, замак набыў функцыі крэпасці, якая прызначалася для абароны і жылля. Пра наяўнасць жылых памяшканняў на трэцім і чацвертым паверхах сведчаць не толькі заўважаныя раней прыкметы ў выглядзе ўпрыгажэнняў і шырэйшых вокнаў, але і рэшткі знойдзеных там печаў і камінаў.

Пацвердзілі ранейшую гіпотэзу пра тое, што ў вежу можна было трапіць праз дзвярны праём, які знаходзіўся на ўзроўні трэцяга паверха з боку баявой галерэі заходняй сцяны замка. У турму на першым паверсе вежы вёў пераход, размешчаны ў тоўшчы паўночнай і ўсходняй сцен.


Фота забяспечана Аляксандрам КАМІНСКІМ.

Самыя юныя археолагі.

Збудаванне неаднойчы аднаўлялі. У ходзе аднаго з узнаўленняў на мяжы 20-30-х гадоў 15 стагоддзя па цэнтры вежы ўзвялі крыжападобны слуп, на які абапіраліся скляпенні, што раздзялялі памяшканні другога і вышэйшых паверхаў. Першапачатковыя перакрыцці паверхаў рабілі з дошак па брусах, ад якіх у сценах захаваліся прамавугольныя адтуліны. Некалькі разоў паднаўляліся роспісы сцен.

Вызначылі два асноўныя этапы разбурэння замка. Яны прыпадаюць на другую палову 17 стагоддзя, пасля чаго замак ужо не аднаўляўся і на перыяд Першай сусветнай вайны.

Даследаванні ў 70-80-х гадах мінулага стагоддзя абудзілі цікавасць суайчыннікаў да Крэўскага замка. Менавіта ў гэты час з'яўляецца шмат публікацый пра Крэва і яго помнікі, а таксама навуковыя і мастацкія творы.

**Аляксандр КАМІНСКІ,**
**Крэва.**

### КАЛЯНДАР

16 КРАСАВІКА

**90 гадоў** з часу ўстанаўлення (1928) ганаровага звання "Заслужаны артыст Беларускай ССР". Пастанова СНК БССР аб прысваенні **Е.А.Міровічу** – першаму ў БССР – ганаровага звання "Заслужаны артыст БССР".

18 КРАСАВІКА

**180 гадоў** з дня нараджэння **Уладзіслава Дыбоўскага** (1838 – 1910), беларускага заолага, батаніка, палеантолага, мінеролага, фальклярыста. Доктар мінералагічных навук (1878). Брат Бенядыкта Дыбоўскага. Нарадзіўся ў маёнтку Адамарын Вілейскага павета, цяпер Валожынскі раён. Належаў да сярэднезаможнага шляхецкага роду Дыбоўскіх з Менскага павета ВКЛ.

**1943.** 75 гадоў з дня нараджэння **Любові Румянцавай**, беларускай актрысы тэатра і кіно, заслужанай артысткі Беларусі. У кінематографе ад 1966 года. Ужо яе першая карціна, знятая на кінастудыі "Беларусьфільм" – "Альпійская балада", – прынесла ёй вялікі поспех і сусветную славу. На фестывалі "Прыбалтыйская вясна" ў 1966 годзе яна атрымала дыплом "За лепшае выкананне жаночай ролі" ў фільме "Альпійская балада".

**115 гадоў** з дня нараджэння **Платона Галавача** (1903 – 1937), беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча. У 1929–1930 – намеснік наркама асветы БССР. Быў адказным рэдактарам газеты "Чырвоная змена", рэдактарам часопісаў "Маладняк", "Полымя". З'яўляўся адным з лідараў літаратурных аб'яднанняў "Маладняк" і БелАПП. Абіраўся членам ЦК КПБ (1927–1930) і ЦВК БССР (1927–1935). У 1930-я гады, як і большасць былых "маладнякоўцаў", быў рэпрэсаваны.

**120 гадоў** з дня нараджэння **Антука Крыніцы** (сапр. Ждановіч Антон Паўлавіч) (1898 – 1937), беларускага акцёра. Удзельнік стварэння Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, яго вядучы акцёр. Брат Ф.П.Ждановіча. Ад 1918 года ў Беларускім савецкім тэатры, з 1920 года ў БДТ-1. Сярод лепшых роляў: Лявон, Сцяпан Крыніцкі ("Раскіданае гняздо", "Паўлінка" Я. Купалы), Сымон Мікула, Паўлюк ("Рысь", "Хам" Э. Ажэшкі), Ваявода, Красінскі ("Кавальваявода", "Кастусь Каліноўскі" Е.Міровіча), Бжэзіцкі ("Над Нёманам" М. Грамыкі), Разанаў, Кульмскі ("Крывая аблона", "Вір" Я. Рамановіча), Лыняеў ("Ваўкі і авечкі" А. Астроўскага), Міронаў ("Капітанская дачка" паводле А. Пушкіна). У 1937 арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958-м.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Не забывайцеся дасылаць бланкі ў рэдакцыю

Ідзе апошняя вучэбная чвэрць. Менш чым два месяцы аддзяляе вас ад фінішу акцыі. Хай красавіцкае сонейка не перашкаджае вам атрымліваць добрыя адзнакі.

Для тых, хто добра вучыцца і жадае да летніх канікулаў займець патрэбную рэч, нагадваем правілы.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне 53-78-04 ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/. Бланкі дасылайце на адрас: 222307, г. Маладзечна, вуліца Вялікі Гасцінец д. 143, ГЦ "Тройка", офіс 518, Рэгіянальная газета".

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№14)

1. Імя, прозвішча__________

2. Дата нараджэння __________

3. Клас
Школа__________

4. Населены пункт__________

5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі

6. Прадмет, за які атрыманая адзнака __________

7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі __________

9. Імя, імя па бацьку __________

10. Прозвішча настаўніка __________

11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам__________

12. Подпіс настаўніка__________

## У Маладзечне пройдзе конкурс маладых скрыпачоў

МАЛАДЗЕЧНА

На Другім адкрытым конкурсе маладых выканаўцаў імя Агінскага (група аркестравых струнных смычковых інструментаў), які пройдзе на базе Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага, наш рэгіён будуць прадстаўляць восем чалавек: двое – малодшая група, шасцёра – старэйшая.

Канкурсанты з Маладзечна і Вілейкі разам з іншымі 75 музыкантамі, якія прадстаўляюць розныя навучальныя ўстановы Беларусі.

Праслухоўванні маладых выканаўцаў-саліставў будуць праводзіцца на працягу двух дзён (13-14 красавіка) у залах Маладзечанскага музычнага каледжа і ў канцэртнай зале дзіцячай школы мастацтваў Маладзечна.

Урачыстасць адбудзецца 13 красавіка, у пятніцу, у 18:30, у вялікай канцэртнай зале музычнага каледжа імя Агінскага. Уваход вольны

**Яўгенія РУКЕВІЧ, выкладчыца музычнага каледжа.**




**Яўген Ломаш хаця яшчэ і вучыцца ў гімназіі №10, але ўжо сёння ведае, што ён студэнт. Фота Наталлі ТУР.**

# Для каго выпускны робяць напярэдадні сур'ёзных іспытаў?

МАЛАДЗЕЧНА

**Такім пытаннем задаўся выпускнік гімназіі №10 Яўген Ломаш. Хаця чаго яму самому турбавацца? За ўдзел у алімпіядзе па нямецкай мове і дзякуючы ўзятаму дыплому трэцяй ступені Яўген ужо сёння можа лічыць сябе студэнтам вышэйшай навучальнай установы.**

Тым не менш, летам Яўген не будзе адпачываць, пакуль яго аднакласнікі здаюць тэставанне.

– Я пайду на ЦТ, мне засталося здаць два прадметы. Хоць я і ведаю, што магу пайсці ў некаторыя ВНУ абсалютна свабодна, але да ЦТ працягваю рыхтавацца. Адзінае, што пайду на яго без нерваў і нейкага жаху перад невядомым.

Паступаць Яўген плануе ў Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт на факультэт міжнародных бізнес-камунікацый.

І тут, вядома, Яўгену спатрэбіцца веданне нямецкай мовы, якую хлопец вывучае з першага класа.

– Я таму і выбраў гэту мову, бо зразумеў, якую рэальную карысць яна можа мне прынесці. У мяне вельмі добрая настаўніца па нямецкай мове **Надзея Канстанцінаўна Кандратовіч**. З яе, напэўна, і пачалася мая любоў да гэтай лагічнай і прыгожай мовы. У нас у школе ёсць абмен з нямецкім горадам Эслінгенам. Я неаднаразова быў у Германіі, мне гэта краіна падабаецца, і я не выключаю магчымасці, што аднойчы прыйдзецца там вучыцца.

Асноўнае адрозненне Беларусі і Германіі Яўген бачыць у тым, што калі ў Беларусі больш перспектыў у вялікіх гарадах, то Германія больш дэцэнтралізаваная. І там ёсць магчымасць развівацца і дамагацца большага нават у маленькіх гарадах.

### У алімпіядзе па нямецкай галоўнае, каб не падвёў запіс гуку

Яўген ужо пяць гадоў удзельнічае ў алімпіядах розных узроўняў: ад раённай да рэспубліканскай. У алімпіядзе па нямецкай мове ўдзельнічае ўпершыню. І адразу ж дыплом трэцяй ступені. А з сёмага класа Яўген Ломаш быў алімпіяднікам па геаграфіі.

– Я сваім вынікам задаволены. Алімпіядныя заданні па нямецкай мове размеркаваныя наступным чынам. Першая частка – граматыка, другая – гаварэнне, трэцяя – аўдзіраванне. Этап гаварэння заўсёды вельмі хвалюючы. Усё залежыць ад таго, якая тэма табе трапіцца.

> **Мне трэба было ўявіць сабе, чаму я ганаруся тым, што жыву ў сельскай мясцовасці. А я ж ніколі не жыў у сельскай мясцовасці, але не разгубіўся і змог нагаварыць на 46 балаў з 50 магчымых.**

На абласной алімпіядзе быў гук на аўдзіраванні проста жахлівы, таму цяпер, калі з гукам было ўсё ў парадку, этап аўдзіравання не падаўся мне нейкім цяжкім.

Пасля алімпіяды ў Яўгена, канешне, з'явілася больш вольнага часу, але гэта не значыць, што 11-класнік марнуе час абы як.

– У асноўным мяне можна сустрэць дома, я шмат чытаю, займаюся, рыхтуюся да ўрокаў. Пасля алімпіяды ўсім удзельнікам падарылі кнігі і часопісы на нямецкай мове, таму, бывае, чытаю іх. Слухаю музыку, калі атрымоўваецца, гуляю ў футбол. Хаця часцей за футболам проста сачу. За сусветным, вядома. Футбол у Беларусі – відовішча сумнае. Падарожнічаць люблю.

Вельмі падабаюцца Яўгену еўрапейскія краіны.

– Там шмат месцаў, якія проста дыхаюць культурай і гісторыяй. Таму я не проста езджу гуляць і забаўляцца, але стараюся ва ўсіх паездках знайсці нешта карыснае для мяне, як для асобы.

Родны горад Маладзечна Яўгену падабаецца тым, што, у параўнанні з некаторымі іншымі гарадамі, Маладзечна не шэры і не сумны.

– Мы з сябрамі, бывае, праходзім за дзень кіламетраў дваццаць. Але пэўнага любімага месца ў мяне няма. Парк хіба…

А ўжо праз два месяцы над паркам, які так любіць Яўген, зазззяе феерверк, які павіншуе сёлетніх школьнікаў з выпускным.

– Пакуль да выпускнога не рыхтуюся. І я рады, што для мяне выпускны будзе святам, момантам рэлаксацыі, бо ведаю, што пасля яго – я ўжо студэнт. А вось для астатніх…

Я не высокага меркавання аб тым, як праходзяць выпускныя ў нашай краіне. Выпускны да тэставання. Чаму? Для каго? Можна параўнаць з той жа Расіяй. Так, у іх у астатнім шмат праблем, але што датычыцца выпускнога, які ў іх праходзіць пасля адзінага дзяржаўнага экзамену, лічу, што гэта правільна. Выпускнікі павінны ў гэты дзень ведаць, што самае складанае ў іх ужо скончылася. Наперадзе толькі свята і адпачынак.

**Наталля ТУР.**



Карэспандэнт "Інтэкс-прэс" Кацярына Бубен на пляжы канарскага курорта Коста Адэхе.





Ягады кактуса па смаку нагадваюць маліну.

# Выпрабавана на сабе: **Як я адпачыла на Канарах за 360 еўра**

**Мой адпачынак прыпаў на канец студзеня – пачатак лютага. Праводзіць яго ў снежнай Беларусі не хацелася.**

Я марыла пра мора і сонца. Стандартныя Егіпет і Турцыя мяне не прыцягвалі, хацелася чагосьці незвычайнага. Таму спыніла выбар на Канарскіх астравах, які́мі захапляліся знаёмыя.

Падарожнічаць, асабліва па незнаёмай краіне, лепш у кампаніі. На адным з форумаў у інтэрнэце знайшла хлопца, які таксама збіраўся ехаць на Канары ў гэты ж час. І мы вырашылі паляцець разам. На Канарскіх астравах правялі 12 дзён.

## У чатыры разы танней

Каб падарожжа абышлося нядорага, патрэбны хоць невялікі досвед самастойных падарожжаў – тады не прыйдзецца плаціць за паслугі тураператара. Не менш важна загадзя вывучыць цэны розных авіякампаній і знайсці недарагі варыянт.

Шукаць білеты для паездкі я пачала ў сярэдзіне снежня. Тады з Варшавы на Тэнерыфе (самы буйны востраў Канарскага архіпелага) з перасадкай у Мадрыдзе можна было даляцець лаўкост-авіякампаніямі за 40 еўра. Але літаральна за тыдзень, пакуль я вырашала пытанні з адпачынкам, цана на білет паднялася да 52 еўра. Назад з перасадкай у Порце каштаваў на два еўра даражэй.

Можна, вядома, нядорага купіць і прамыя білеты, але планаваць адпачынак трэба за трычатыры месяцы. Я ж спахапілася за месяц, таму, каб зэканоміць грошы, вырашылі ляцець з перасадкамі.

Ад Баранавічаў да Варшавы і назад я ехала на цягніку. Білет у адзін бок каштуе 42 рублі (17 еўра). Да аэрапорта Модлін, які знаходзіцца ў прыгарадзе Варшавы, мяне са спадарожнікам давёз прыяцель за чатыры еўра з чалавека. На зваротным шляху з аэрапорта імя Шапэна, які размешчаны ў рысе Варшавы, да чыгуначнага вакзала даехала на цягніку за два еўра.

У выніку дарога з Баранавічаў да Тэнерыфе і назад абышлася мне ў 146 еўра. Калі б ляцела з Мінска, то за авіябілеты туды-назад давялося б заплаціць як мінімум 570 еўра.

## Адзінаццаць начэй па цане адной

Жыллё мы загадзя не браніравалі. Першую ноч вырашылі правесці ў палатцы, а потым вызначыцца, у якой частцы вострава спыніцца, і ўжо там шукаць жыллё. Таму першым месцам, якое наведалі на Канарах, стаў спартыўны гіпермаркет. Там мы купілі самую танную палатку (19 еўра) і спальнікі (па 12 еўра).

Узімку надвор'е ў розных частках вострава адрозніваецца. На поўначы ў канцы студзеня практычна кожны дзень ідзе дождж, і тэмпература не перавышае 17-18°C. Таму вырашылі адправіцца на поўдзень, дзе тэмпература трымалася ў раёне 21°C і не было дажджоў.

Дабрацца з поўначы на поўдзень вострава можна на аўтобусе за шэсць еўра. Але мы паехалі аўтаспынам. Дарога замест дзвюх гадзін заняла каля чатырох з паловай. Але затое – бясплатна.

У першую ноч паставілі палатку ў парку ў цэнтры курортнага горада Лос-Крысціянас. Паліцыі на поўдні вострава практычна няма, і мы не турбаваліся, што нас могуць аштрафаваць. Ноччу было цёпла і камфортна, таму раніцай задаліся пытаннем: а ці трэба ўвогуле наймаць жыллё? Тым больш, што пакой каштуе ў сярэднім 23-25 еўра ў суткі.

У выніку ўсе 11 начэй на востраве мы жылі ў палатцы, якую ставілі на пляжах і ў парках.

Плюсы такога жыцця: таннасць, можна спыніцца ў любым месцы. Мінусы: мыцца даводзілася ў душы на пляжы, а зараджаць тэлефон у кафэ, рэстаранах, гандлёвых цэнтрах.

## Харчаванне без эканоміі

Так як за жыллё мы не плацілі, на харчаванні вырашылі не эканоміць. У супермаркет схадзілі ўсяго тры разы. Вялікіх гіпермаркетаў у курортных гарадах няма, яны размешчаныя ў дзясятцы кіламетраў уздоўж трасы.

Цэны на прадукты ў гіпермаркетах цалкам дэмакратычныя: кілаграм буйных вараных крэветак каштаваў 7,5 еўра, буйная папая – 1 еўра, кілаграм яблыкаў або бананаў – 1,3. У крамках у турыстычных месцах цэны прыкметна вышэйшыя: бутэлька вады (1,5 л) каштавала 1-1,5 еўра, у той час як у гіпермаркеце яе можна было купіць у 3,5 раза танней.

Звычайна мы сілкаваліся ў кафэ і рэстаранах. Адзін "англійскі сняданак" у сярэднім абыходзіўся ў тры еўра. У яго ўваходзілі два смажаныя яйка, дзве сасіскі, два кавалачкі бекону, фасоля ў таматным соусе, два тосты з маслам і мармеладам і гарбата або кава. Не ва ўсіх установах напой уваходзіў у цану сняданку, але калі мы пыталіся ў афіцыянта, ці ўваходзіць кава ў цану, нам казалі, што спецыяльна для нас уключаць. Установы вымушаныя ісці на такія саступкі з-за высокай канкурэнцыі.

Турыстам прапануюць пераважна рыбу, морапрадукты, курыцу. Ва ўстановах сярэднягa ўзроўню палова смажанага кураня з гароднінай каштавалі ад 5 еўра, смажаны асьміног – ад 12, дзве порцыі паэлы з рыбай і морапрадуктамі – ад 26. У адным з гарадоў нам удалося знайсці кафэ з комплекснымі абедамі: тры стравы за 7 еўра.

## Начное жыццё – на поўначы, атракцыёны – на поўдні

Вада ў Канарскіх астравах у студзені–лютым не вельмі цёплая: купацца ў ёй адважыцца далёка не кожны, хоць мне было цалкам камфортна. Але мы палічылі за лепшае не ляжаць на пляжы цэлымі днямі, а павандраваць.

Шматлікія турысты для гэтай мэты арандуюць аўтамабілі (30-40 еўра ў суткі), але мы перамяшчаліся выключна аўтаспынам. На Тэнерыфе з гэтым праблем няма, машыны падбіралі нас даволі хутка, а кіроўцы ляшчэ і мясцовыя легенды распавядалі.

Галоўная славутасць вострава – вулкан Тэйдэ. Яго вышыня – 3718 метраў. Кажуць, што ў бязвоблачнае надвор'е з яго вяршыні можна ўбачыць усе астравы Канарскага архіпелага. З вышыні 2300 метраў да 3555 метраў можна праехаць на канатнай дарозе (білет туды-назад – 37 еўра). Падчас майго адпачынку на вулкане быў снегапад і моцны вецер, канатная дарога не працавала, таму трапіць на вяршыню мы не змаглі.

А вось вялікія скалы, прыгожыя парты і збудаванні можна паглядзець бясплатна.

Начное жыццё на востраве "кіпіць" толькі ў сталіцы, але ў курортных гарадах ёсць іншыя забавы. Самая папулярная – аквапарк "Сі-парк" і заапарк "Лора-парк". Дзённыя білеты туды па 35 еўра на чалавека. Можна зэканоміць, калі набываць білет адразу ў абодва паркі – тады гэта будзе каштаваць 60 еўра на чалавека.

Попытам карыстаюцца і водныя атракцыёны. Можна пакатацца на водным матацыкле (20 еўра за 2 гадзіны) або навучыцца сёрфінгу (трохгадзінныя групавыя заняткі каштуюць 35 еўра, індывідуальныя – 70).

Адпачынак дзікуном не кожнаму спадабаецца. А мяне гэты досвед натхніў на наступнае падарожжа ў такім жа стылі.

**Кацярын БУБЕН, "Інтэкс-прэс", Баранавічы.**
**Фота з архіва аўтара.**



ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 11)

## Вучым ход канём

**Конь – самая складаная для разумення дзіцяці фігура.**

Каб замацаваць веды пра фігуру "Конь", трэба рашаць больш розных задач, дзе менавіта ён – галоўны персанаж.

Давайце паспрабуем рашыць наступныя задачы. Трэніруйце, каб дзіця добра арыентавалася на дошцы, як ходзіць конь. І каб з лёгкасцю бачыла яго магчымыя хады.

**Знайдзі фігуру, якую можа пабіць белы конь. Збі яе!**



**Знайдзі ахвяру для чорнага каня, і збі яе!**



**Паспей даслаць малюнак**

А мы працягваем збіраць малюнкі для кніжкі Віталя Качаткова пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Ужо некалькі атрымалі, але чакаем, пакуль прышлюць усе ахвотныя.

Дасылайце любыя дзіцячым малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: 222310, Вялікі Гасцінец, 143/518 з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". А можна сфатаграфаваць і даслаць на region-news@rh.by.

Маляваць можа хто заўгодна, даслаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

**Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.**

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тыя, што размесціць пасля ў кніжцы.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## ФК "Маладзечна" пачынае сезон з выезду ў Стоўбцы

МАЛАДЗЕЧНА

15 красавіка пачынаецца сезон чэмпіянату Беларусі сярод камандаў другой лігі.

У гэтай лізе наш рэгіён прадстаўляюць каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4" і "Ашмяны".

У нядзелю маладзечанцы са сваім новым трэнерам **Аляксеем Вергіенкам** едуць у Стоўбцы.

Першы дамашні матч каманда згуляе 21 красавіка. Сапернікамі маладзечанцаў стане каманда з Узды.

Ашмяны таксама пачынаюць з гульні ў гасцях. Першым сапернікам ашмянцаў стануць "Крумкачы".

Нагадаем, што ў другой лізе сёлета згуляе 15 камандаў.

Каляндар гульняў у другой лізе будзе надрукаваны ў наступным нумары "РГ" .

**Наталля ТУР.**

## Памёр алімпійскі чэмпіён Аляксандр Курловіч

Раптоўна памёр двухразовы алімпійскі чэмпіён **Аляксандр Курловіч**. Яму было 57 гадоў. На жаль, выратаваць яго ад сардэчнага прыступу дактарам не ўдалося.

Ураджэнец і ганаровы грамадзянін Гродна Аляксандр Курловіч выйграў два золаты Алімпіяд – у Сеуле і ў Барселоне, у 1998 і 1992 гадах. Ён неаднаразова быў чэмпіёнам свету і Еўропы. Усталяваў мноства рэкордаў, сярод іх – рывок на 215 кг у 1989 годзе, штуршок на 260 кг у 1987 годзе і самая вялікая сума дваборства – 472,5 кг у 1987 годзе.

Пасля заканчэння кар'еры Аляксандр Курловіч працаваў спартыўным суддзёй, да 1999 стаў суддзёй вышэйшай міжнароднай катэгорыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чысць пачынае сезон з нічыёй са "Славіяй"

МАЛАДЗЕЧНА

**У мінулыя выхадныя распачаўся чэмпіянат Беларусі па футболе сярод камандаў першай лігі.**




Першы матч сезона каманда "Чысці" згуляла ўнічыю са "Славіяй".

Каманда з "Чысці" першы матч сыграла ў гасцях у Мазыры.

Першая гульня скончылася нічыёй – 1:1.

Лік гульні толькі на 82 хвіліне матча адкрыў паўабаронца "Чысці" **Аляксей Кашэўскі**.

Праўда, **Дзмітры Варабей** са "Славіі" змог скарыстацца памылкай "Чысці" і забіў гол на 86 хвіліне.

Пасля гульні галоўны трэнер ФК "Чысць" **Дзяніс Мятліцкі** падзяліўся ўражаннямі ад гульні.

– Гульня вельмі спадабалася. Адразу адчуваецца ўзровень арганізацыі. "Славія" – сапернік годны. Таму мы вельмі рады, што ў паядынку з імі маглі зарабіць сваё першае ачко ў чэмпіянаце. Вельмі парадавала колькасць балельшчыкаў на трыбунах. Па афіцыйных звестках, гледачоў прыйшло 1650 чалавек. Думаю, было больш. Што датычыцца самой гульні, то нам было не проста. Два нашы абаронцы **Талькоўскі** і **Казючыц** траўмаваныя, таму давялося гуляць з адным абаронцам. Пасля голу Кашэўскага троху згубілі канцэнтрацыю. І як вынік – гол у нашых варотах.

**Свой першы дамашні матч ФК "Чысць" правядзе на гарадскім стадыёне ў Маладзечне ў суботу, 14 красавіка.**

– Мы вельмі спадзяёмся, што да выхадных паспеюць падрыхтаваць поле. Верагодней за ўсё, матч пачнецца ў 17 гадзін.

Сапернікам "Чысці" у другім туры стане каманда "Лакаматыў" з Гомеля.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

## Каляндар гульняў у першай лізе

| Тур | Дата правядзення | Дамашняя гульня | Гульня ў гасцях |
|---|---|---|---|
| 2 | 14 красавіка | Смаргонь | Орша |
| | 14 красавіка | Чысць | "Лакаматыў" Гомель |
| 3 | 21 красавіка | Смаргонь | Чысць |
| 4 | 28 красавіка | Чысць | Слонім 2017 |
| | 28 красавіка | "Хімік" Светлагорск | Смаргонь |
| 5 | 5 мая | Смаргонь | "Славія" Мазыр |
| | 5 мая | "Хваля" Пінск | Чысць |
| 6 | 12 мая | Чысць | "Энергетык БДУ" Мінск |
| | 12 мая | "Лакаматыў" Гомель | Смаргонь |
| 7 | 20 мая | "Граніт" Мікашэвічы | Чысць |
| 8 | 27 мая | Чысць | ЮАБ Жыткавічы |
| | 27 мая | Смаргонь | Слонім 2017 |
| 9 | 2 чэрвеня | "Хваля" Пінск | Смаргонь |
| | 2 чэрвеня | "Нафтан" Наваполацк | Чысць |
| 10 | 9 чэрвеня | Чысць | "Белшына" Бабруйск |
| | 9 чэрвеня | Смаргонь | "Энергетык БДУ" Мінск |
| 11 | 17 чэрвеня | "Граніт" Мікашэвічы | Смаргонь |
| | 17 чэрвеня | Ліда | Чысць |
| 12 | 23 чэрвеня | Чысць | Баранавічы |
| | 23 чэрвеня | Смаргонь | ЮАБ Жыткавічы |
| 13 | 30 чэрвеня | "Нафтан" Наваполацк | Смаргонь |
| | 30 чэрвеня | Ворша | Чысць |
| 14 | 7 ліпеня | Смаргонь | "Белшына" Бабруйск |
| 15 | 15 ліпеня | Ліда | Смаргонь |
| | 15 ліпеня | Чысць | "Хімік" Светлагорск |
| 16 | 4 жніўня | Чысць | "Славія" Мазыр |
| | 4 жніўня | Баранавічы | Смаргонь |
| 17 | 11 жніўня | Орша | Смаргонь |
| | 11 жніўня | "Лакаматыў" Гомель | Чысць |
| 18 | 18 жніўня | Чысць | Смаргонь |
| 19 | 25 жніўня | Слонім 2017 | Чысць |
| | 25 жніўня | Смаргонь | "Хімік" Светлагорск |
| 20 | 1 верасня | "Славія" Мазыр | Смаргонь |
| | 1 верасня | Чысць | "Хваля" Пінск |
| 21 | 8 верасня | "Энергетык БДУ" Мінск | Чысць |
| | 8 верасня | Смаргонь | "Лакаматыў" Гомель |
| 22 | 15 верасня | Чысць | "Граніт" Мікашэвічы |
| 23 | 22 верасня | ЮАБ Жыткавічы | Чысць |
| | 22 верасня | Слонім 2017 | Смаргонь |
| 24 | 29 верасня | Смаргонь | "Хваля" Пінск |
| | 29 верасня | Чысць | "Нафтан" Наваполацк |
| 25 | 6 кастрычніка | "Белшына" Бабруйск | Чысць |
| | 6 кастрычніка | "Энергетык БДУ" Мінск | Смаргонь |
| 26 | 13 кастрычніка | Смаргонь | "Граніт" Мікашэвічы |
| | 13 кастрычніка | Чысць | Ліда |
| 27 | 20 кастрычніка | Баранавічы | Чысць |
| | 20 кастрычніка | ЮАБ Жыткавічы | Смаргонь |
| 28 | 27 кастрычніка | Смаргонь | "Нафтан" Наваполацк |
| | 27 кастрычніка | Чысць | Орша |
| 29 | 3 лістапада | "Белшына" Бабруйск | Смаргонь |
| 30 | 10 лістапада | Смаргонь | Ліда |
| | 10 лістапада | "Хімік" Светлагорск | Чысць |

* Паколькі дзве каманды з нашага рэгіёна ўдзельнічаюць у першай лізе, то каляндар даем на дзве каманды: "Чысць" і "Смаргонь" .



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Кароткі вусны загад камандзіра па ўстаноўленай форме.
5. Участак зямлі, засаджаны агароднінай.
6. Выклiканыя пытаннем або зваротам словы, выказаныя вусна ці пісьмова.
8. Фігура, утвораная замкнутай крывой, якая нагадвае форму падоўжанага разрэзу яйца.
9. Клёцкі, начыненыя мясным або іншым фаршам.
10. Прадмет мяккай мэблі для сядзення і ляжання, са спінкай і падлакотнікамі.
15. Масавая народная гульня, якая суправаджаецца танцамі, песнямі і драматычнымі дзеяннямі.
16. Калі развівалася гэта індустрыя, камфортна ёй карыстацца вельмі заміналі дамы з вычурнымі шапкамі. Каб вырашыць праблему, на ўваходзе павесілі аб’яву: “Заходзіць можна, толькі зняўшы шапку. Гэта правіла не распаўсюджваецца на пажылых лэдзі”.
20. Лекар.
22. Прыстасаваная для язды і хадзьбы паласа зямлі, якая злучае асобныя пункты мясцовасці.
23. Пояс імя гэтага вялікага князя Літоўскага – умоўная назва ўнікальнага гарнітура, знойдзенага ў вёсцы Літва Маладзечанскага раёна. Ён складаецца з сярэбраных пласцін, дэкараваных раслінным арнаментам, выявамі птушак і васіліскаў. Мяркуецца, што беларускаму князю пояс падарыў першы крымскі хан Хаджы-Гірэй.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Даўнейшая двухбортная мужчынская і жаночая верхняя адзежына з доўгімі поламі і падоўжанымі рукавамі.
3. Гэта рэптылія – самая эгаістычная жывёліна. Нават адклаўшы яйкі, забывае пра іх назаўсёды.
4. Участак зямлі пры доме, хаце, прадпрыемстве, абгароджаны плотам ці сценамі будынкаў.
7. Апавядальны твор вуснай народнай творчасці або літаратурны твор аб выдуманых падзеях, нярэдка з удзелам чарадзейнай, фантастычнай сілы.
11. На гербе гэтага беларускага горада выява чорнага арла з залатой дзюбай.
12. Папрок, незадавальненне.
13. У гэтай краіне няма чыгункі, нельга ўвозіць коней, а кухня вядомая экзотыкай. Напрыклад, многія любяць крыху пратухлае мяса акулы.
14. Апытальны ліст для збору пэўных звестак.
17. Службовец у панскім маёнтку, які кіраваў гаспадаркай.
18. Неглыбокая ранка на целе або пашкоджанне на прадмеце ў выглядзе палоскі.
19. Вікінгі не мелі іх уласных, а выкарыстоўвалі ад розных іншых краін.
21. Самы хуткі вецер на планеце, а таксама прычына дажджоў з рыб, жаб і іншага.

## Адказы на крыжаванку з №13

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 3. Далёка. 4. Аўтар. 7. Літара. 10. Дабрабыт. 12. Лапата. 13. Афіцэр. 14. Слон. 19. Тварог. 21. Анекдот. 22. Лейка. 24. Капыль. 26. Ядро.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Апека. 2. Забыць. 5. Датла. 6. Арэнда. 7. Лязо. 8. Зазор. 9. Атлант. 11. Загс. 15. Даёнка. 16. Забава. 17. Ліміт. 18. Закладка. 20. Асечка. 21. Ашыйнік. 23. Данос. 25. Ландыш.

## ГАРАСКОП 13-19 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Удзячнасць робіць чалавека шчаслівейшым. Прычым не толькі таго, каму яна адрасаваная, але і таго, хто яе гаворыць. Не забывайце дзякаваць людзям за ўсё, што яны для вас робяць.



**ЦЯЛЕЦ.** Прыслухоўвайцеся да інтуіцыі. Вашы разважанні вельмі важныя, але інтуіцыя – гэта ваша суперсіла. Яна выкарыстоўвае ваш досвед і жыццёвую мадэль, каб знайсці адказ на любое пытанне. Бывае, яна ўзнікае спантанна, і лепш прыслухацца да яе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Маленькія рэчы таксама важныя. Усе мы чакаем вялікіх перамог і дасягненняў і забываем пра тое, што яны складаюцца з дробных і бывае нават незаўважаных крокаў. Цаніце гэтыя крокі. І добра ўсвядомце правіла трох Н – няма нічога немагчымага.



**РАК.** Верце ў сябе, любіце сябе. Ведайце, што вы для сябе – самыя галоўныя. І гэта зусім не эгаізм, бо чым больш любові вы назапасіце ў сабе, тым больш яе зможаце даць тым, хто вас акружае.



**ЛЕЎ.** Узрост – гэта лічба. Калі вам 20, вы думаеце, што 50 – гэта кашмар. Але калі вам 50, вы адчуваеце, што вам 30. Наш узрост не павінны вызначаць нашых адносін да жыцця. Не давайце лічбам мяняць вас.



**ДЗЕВА.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець. Нездарма кажуць: “Вочы баяцца, а рукі робяць”. Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць “не” нават блізкім людзям.



**ШАЛІ.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.



**СКАРПІЁН.** Заняткі спортам пастаянна павінны стаць часткай вашага ладу жыцця. Гэта зробіць вас больш моцнымі фізічна, маральна і эмацыйна. Таксама палепшыць здароўе і знешні выгляд.



**СТРАЛЕЦ.** Трацьце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць. Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здорава, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.



**КАЗЯРОГ.** У вас стан, блізкі да дэпрэсіі. Не ўпадайце ў адчай. Жыццё такое пераменлівае, што калі сёння вам дрэнна, то заўтра можа адбыцца такое, што ад радасці аж дух захопіць. Калі ў вас не ляжыць душа да якога-небудзь чалавека ці нейкай працы, не варта губляць на іх свой час.



**ВАДАЛЕЙ.** Дзверы новых магчымасцяў зноў шырока адчыненыя перад вамі. Трэба толькі дачакацца адпаведнага моманту, які, дарэчы, можа здавацца на першы погляд зусім выпадковым. У вас павышаецца дзелавая актыўнасць. Галоўнае, не канцэнтруйце сваю ўвагу на цяжкасцях, а праявіце спрыт і схіліце сітуацыю, якая склалася, на свой бок.



**РЫБЫ.** Вас стрымлівае страх. А гэта ілюзія. Большасць таго, чаго мы баімся, ніколі не здараецца. Але нават калі і здараецца, то часта аказваецца не такім дрэнным, як мы думалі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | | 1 | 6 | | 9 | 2 |
| | | 1 | | 9 | | 6 | | |
| | | | 5 | | 3 | 4 | | 1 |
| | 2 | 4 | | 8 | | | 1 | |
| | | 7 | | | | 3 | | 8 |
| | | | | | 9 | 2 | | 5 |
| | | | | 6 | | | 3 | |
| | 8 | | | | 2 | | 6 | 4 |
| | | | | 5 | | | | 7 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА КРАСАВІК**

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**

“**Всё будет хороШОУ!**” 6+ (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
21 красавіка – у 12:00

**ПАРАД ПРЭМ’ЕР!**

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

ПРЭМ’ЕРА. “**Некалькі пралётаў уверх**” 16+ (трагікамедыя ў 2-х актах), *Радзівон Аўчыннікаў*
28 красавіка – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Час Сэканд Хэнд**” 16+, *Святлана Алексіевіч* (дакументальная драма паводле аднайменнай кнігі лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры С.А.Алексіевіч)
13 красавіка – у 19:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Ну, вы даяце**” 18+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)
15 красавіка – у 17:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Прыгажуні**” 16+ (амерыканская камедыя), *Айван Менчэл*
20 красавіка – у 19:00

“**Банкет**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Ніл Сайман*
25 красавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by,
www.theatre-modt.by

УНП 600066659

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 / НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015


## НАДВОР'Е

### 14 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +4 / +14 | | +4 / +15 | | +5 / +18 | | +9 / +18 | |
| | 748 | ← 5 | 750 | ↖ 5 | 747 | ↑ 2 | 745 | ↓ 2 |
| Вільня | +4 / +15 | | +4 / +17 | | +7 / +20 | | +9 / +18 | |
| | 754 | ← 5 | 755 | ↖ 5 | 753 | ↗ 2 | 752 | ↓ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 6.13
Захад 20.12
Даўжыня дня 13.59

Усход 6.10
Захад 18.03
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +5 / +12 | 759 | ↗ 3 |
| Гродна | +7 / +17 | 757 | ↖ 5 |
| Мінск | +4 / +15 | 750 | ↖ 5 |
| Магілёў | +3 / +13 | 754 | ↖ 3 |
| Брэст | +11 / +21 | 754 | ↗ 6 |
| Гомель | +4 / +14 | 760 | ↖ 3 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -4,2 °C у 1986 годзе
Максімальная тэмпература +19,6 °C у 1989 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Якія традыцыі ў вашай сям'і на Радаўніцу?

**Таццяна Іваненка, настаўніца, Маладзечна:**
– З дзяцінства памятаю: заўсёды з бабуляй на Мядзельшчыне прыбіралі магілы не толькі родных, але і суседскія, якія не было каму дагледзець. Ну, і ніколі не елі на магілках, як цяпер часта робяць.

**Алеся Раздзялоўская, харэограф, Вілейка:**
– Дзядулі і бабулі пахаваныя на Гомельшчыне. Туды даязджаем рэдка. А на Вілейшчыне, дзякуй богу, няма да каго хадзіць.

**Валерыя Шкода, у дэкрэтным адпачынку, Мядзел:**
– Ды нічога асаблівага. Магілкі прыбіраем, кветкі нясём, свечку ставім у царкве.

**Эдзіта Бранцэвіч, выхавальніца, Смаргонь:**
– Уся мая сям'я – каталікі. У нас свята наведвання продкаў – Дзяды, увосень. Вясной мы таксама ходзім на магілкі, але пэўнай традыцыі ці сямейных абрадаў няма.

**Віталь Лучыновіч, студэнт, Маладзечна:**
– Наведваем з бацькамі магілкі ў вёсцы. Пасля абеду сям'ёй збіраемся за сталом.

**Уладзімір Цанунін, пенсіянер, Вілейка:**
– Едзем на радзіму, на Магілёўшчыну. Там на магілках традыцыя – выпіць чарку. Радаўніца – адзіны дзень у годзе, калі на магілкі збіраюцца мае аднакласнікі, што жывуць у розных краінах.

**Аляксей Ніканенка, кіроўца, Валожын:**
– Усё, як ва ўсіх. Нясём кветкі, цукеркі, часам фарбаваныя яйкі. Мужчынам, якія курылі, цыгарэту можна пакласці.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень

У Латыгалі ў будынку былой школы са жніўня мінулага года кіпіць работа. Некалькі энтузіястаў сваімі ўласнымі намаганнямі хочуць адкрыць тут дом для састарэлых. Чаму ж не ўсё так проста, чытайце ў наступным нумары.



## ПРОСТА АНЕКДОТ

Мяне заўсёды здзіўляў той факт, што ўсіх грошай зарабіць нельга, а працаваць можна.

***

Пайшла ў ванну памыць галаву – памыла пральную машынку, люстэрка і ракавіну. Хачу чаю – баюся ісці на кухню.

***

Няпраўду кажуць, што з грашыма цяжка развітвацца. Куды цяжэй з імі сустрэцца.

***

Паляванне – гэта спорт. Асабліва калі патроны закончыліся, а дзік яшчэ жывы.

***

Калі палохаць страуса праз кожныя 25 сантыметраў, за ім можна садзіць бульбу.

***

У жанчыне павінна быць маленькая загадка. А не суперкрыжаванка і не рэбус на дзве старонкі.

## Хопіць сядзець дома! Выбірайцеся на прыроду разам з "Рэгіянальнай газетай"

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".
Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№15 (1198) 13.04.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 18. Падпісана ў друк у 9.00 12.04.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.